# Каштоўныя хвіліны

Не, сябры, мы не памыліліся, і вы таксама нічога не пераблыталі. Гадзіннік на вокладцы нашага часопіса азначае не канец года, як гэта зазвычай бывае тады, калі ў нашых дамах свецяцца калядныя ёлкі. Наш гадзіннік азначае... пачатак новага навучальнага года. Мы проста нагадваем і вам, і сабе, што вось ён, аказваецца, і надышоў, чарговы навучальны год. І дзеля таго, каб ён быў плённы, удалы, каб ён прыносіў нам як мага менш непрыемнасцяў, трэба нам навучыцца добра іх берагчы – нашы хвіліны і гадзіны. Тады і ўвесь год будзе цудоўны.

І тады нас чакае шмат незвычайных рэчаў і прыемных сюрпрызаў. Бо ў нас тады на ўсё хопіць часу. І мы не будзем скардзіцца на яго недахоп, як той хлопец, які любіць расказваць усім, што ён горы зрушыў бы, калі б на тое хапіла ў яго часу...

*Божа, наш Ойча!*
*Табе належыць кожная хвіліна*
*нашага жыцця.*
*Дапамажы, каб мы не марнавалі іх,*
*нашых хвілінаў,*
*бо яны ўжо ніколі не паўторацца.*
*Амэн.*



# Гадзіннік у касцёле

Навошта ён ў касцёле? – можа падумаць хтосьці з нас. Ну не дзеля таго ж, каб вернікі сачылі па ім, ці не задоўга ксёндз гаворыць казанне! І не дзеля таго, каб пільнаваць, паспеем мы пасля службы ў касцёле на арэлі-каруселі альбо не. Адзін хлопец сказаў, што гадзінік у касцёле, напэўна, дзеля таго, каб мы маглі звяраць правільнасць нашых уласных гадзіннікаў. І, скажу шчыра, штосьці ў гэтых словах ёсць ад праўды! Так мне, прынамсі, думаецца.

Бо кожны з нас заўсёды павінен звяраць свае ўчынкі, словы, думкі з тым, чаго жадае ад нас Пан Бог. Трэба нам навучыцца звяраць наш час, тое, як мы яго пражываем, з Божымі наказамі, Яго запаведзямі. А гадзіннік у Божай святыні менавіта пра гэта нам і нагадвае: памятай, чалавек, самае каштоўнае, што даў табе Пан Бог, — гэта час твайго жыцця. Дык не марнуй яго! Бо ніводнай хвіліны свайго жыцця ніхто з нас ніколі не верне.

Час – вялікая каштоўнасць і для дзяцей, і для дарослых. І ніводная змарнаваная хвіліна не прыдасца нам у вечнасці. А вось час, патрачаны намі на добрыя справы, аддадзены для дапамогі бліжнім, прынясе і нам, і бліжнім карысць. Дык часцей пазірайма на гадзіннік, сябры! І асабліва на той, у касцёле...

*А. Барткевіч*



«Маленькі рыцар Беззаганнай». № 3 (53)/2011 г.
Часопіс для дзяцей. Выдаецца на ахвяраванні вернікаў.
Заснавальнік: Мінска-Магілёўская архідыяцэзія Рыма-каталіцкага Касцёла ў РБ.
Часопіс зарэгістраваны ў Дзяржаўным рэестры сродкаў масавай інфармацыі за №904.
Рэдактар — Ірына Францаўна Жарнасек,
мастак — Галіна Хінка-Янушкевіч, камп'ютарная вёрстка — Алег Глекаў.
Адрас рэдакцыі: 220030, г. Мінск, вул. Рэвалюцыйная, 1а.
Фармат 70Х90 1/16. Ум. друк. арк. 1,05. Наклад 4 000 экз. Заказ № 968.
Падпісана да друку 17.10.2011 г. Надрукавана ў друкарні ПУП «Джі энд Ді».
ЛП 02330/0150065 ад 05.06.08 г. Вул. Бурдзейнага, 37–191, Мінск, 220136.



ХРЫСЦІЯНСКАЯ ЛЕГЕНДА

# НЕЗВЫЧАЙНЫ ТАНЦОР

*Шмат хто з нас чуў, што маліцца можна не толькі словамі, сэрцам, але і жэстамі рук і нават... ног. Як гэта — маліцца нагамі? А ці здаралася вам бачыць, як прыгожа танчаць перад алтаром у Будславе дзяўчаты? І, дарэчы, у Друі сёлета нават сустрэча моладзі так і называлася — Малітва танцам.*

*Можа гэта сучасныя прыдумкі? Зусім не! Прачытайце, сябры, гэтую хрысціянскую легенду, якая дайшла да нас ажно з Сярэднявечча. І, магчыма, вам таксама захочацца спяваць Богу і... танцаваць перад Ім. Бо маліцца можна, як даказаў герой гэтай легенды, асабліва да Маці Божай, не толькі вуснамі, але й танцам.*

Жыў сабе ў Францыі слаўны танцор Паладзій, які ў маладосці ўступіў у кляштар бэнэдыктынцаў, што належаў абацтву Клерво. Паладзій марыў стаць святым. Прагнуў такім чынам праславіцца? Ды не. Слава ў яго ўжо была і не абы якая! У Парыжы і ягоных ваколіцах ды і ва ўсёй Францыі, і нават у многіх каралеўскіх палацах Еўропы яго ўжо ведалі як цудоўнага танцора! Але гэтая слава Паладзію хутка надакучыла. Гэтак жа, як святы Бэрнард і некаторыя іншыя яго сучаснікі, хлопец не пажадаў больш купацца ў свецкай славе, а пажадаў служыць толькі аднаму Валадару валадароў.

Паладзій хацеў стаць гэткім жа руплівым манахам, як і ягоныя браты ў законе бэнэдыктынцаў. І хоць часам ягонае цела сумавала па скоках, ён успрымаў гэта як спакусу і змагаўся з ёю постам, начным чуваннем у святыні ды малітваю. Ды не толькі скокі перашкаджалі Паладзію. Яму, які так моцна любіў усялякі рух, таксама цяжка было засяродзіцца на малітве, асабліва тады, калі яна была доўгаю і патрабавала нерухомасці. Усе маліліся ў цішыні, а ягонае цела так і прагнула рухацца ўслед за словамі, прагнула ўзносіцца ў неба разам з малітваю...

Цяжкасці гэта былі сур'ёзныя, і Паладзій пачаў ужо падумваць пакінуць кляштар, які патрабаваў



цішы, шмат нерухомасці і задумлівасці. Тады ў ягоным жыцці і здарылася гэтая незвычайная гісторыя. У касцёле абацтва Клерво аб'явілася... Маці Божая! Ды толькі зусім не Паладзію.

У тую ноч Паладзій на чарговым чуванні зноў спрабаваў перамагчы сваю любоў да руху і танцаў. І так яму было горка на душы за сваю, як ён думаў, слабасць, што адкрыў ён наросхрыст сэрца сваё перад Панам Богам і пачаў Яму шчыра, з глыбіні душы скардзіцца на сваю долю горкую. У касцёле ён быў адзін, і таму не саромеўся выказваць свае скаргі ды цяжкасці. Гаварыў-гаварыў, а потым... неспадзявана для самога сябе пачаў танцаваць. Засумаваў, бедачына, па танцы ды цяпер у ім адводзіў душу. Дакладней, усю сваю душу ён і ўклаў у гэты танец. Ды й не дзіва – танчыў жа Паладзій не перад нейкім там зямным вяльможам, але перад самім Панам Богам! О, гэта быў ягоны найлепшы танец!..

І ніхто яго не бачыў з людзей – так думаў танцор. Але ён памыляўся, бо за касцёльнымі філярамі маліліся ў цішы ягоныя браты бэнэдыктынцы. Праўда, цяпер якая там ужо магла быць малітва! Яны ва ўсе вочы глядзелі на танец іх субрата і насамрэч не маглі вымавіць ні слова. Але праз хвілю іх здзіўленне вырасла ў шмат разоў. Цяпер ужо ў іх па-сапраўднаму заняло дух, бо яны ўбачылі, як з вышыні, з-пад скляпенняў касцёла, спусцілася Маці Божая з анёламі, і... і ўсе разам яны за-а-кружыліся ў тым малітоўным танцы!

Чым скончылася гэтая гісторыя? Да канца сваіх дзён слаўны танцор Маці Божай – як называлі яго пасля гэтага здарэння ў кляштары – радасна танчыў у часе сваіх малітваў. І за гэта яго моцна любілі ягоныя браты бэнэдыктынцы.

*З кнігі*
*«Legendy i opowieści różańcowe»*
*пераклала І.С.*



# Хто на першым месцы?

*«Інтэрв'ю» са святым арханёлам Міхалам*



*Помнік арханёлу Міхалу зрабіў скульптар Ігар Голубеў.*

*— Памятаю, дзесьці чытаў верш пра цябе, шаноўны святы арханёл Міхал, і там былі такія радкі:*

*Святы арханёле Міхале!*
*На варце майго народа...*

*Скажы, калі ласка, а чаму пра цябе пісалі ў тым вершы, што ты нібыта вартуеш наш народ?*



— Бо гэта чыстая праўда, Яська. Я — апякун Беларусі. Так што ў складаныя хвіліны можаш звяртацца да мяне...

*— Здорава! Не кожны народ можа пахваліцца такім баявым апекуном. У цябе вунь які слаўны меч! І часта табе даводзілася ваяваць ім?*

— Заўсёды, калі на арэну барацьбы выходзілі зацятыя ворагі Бога і Касцёла.

*— А гэта праўда, што ты галоўны... ну, як жа гэта сказаць... начальнік над усімі анёламі?*

— Можа, па-вашаму, па-цяперашняму, й начальнік, а так у сапраўднасці  я проста князь анёлаў. А яшчэ мяне лічаць анёлам суду і Божых караў.

*— Ой!*

— Чаго ты спужаўся? Ну, каб табе весялей ды смялей было, дык я яшчэ і анёл Божай міласэрнасці.

*— Вось гэта сапраўды весялей! А ключы гэтыя ў тваіх руках... Ад чаго яны?*

— А-а... гэтыя... Ад неба.

*— Ты такі магутны! Як жа цудоўна, што менавіта ты з'яўляешся апекуном Беларусі! Цяпер вунь у нас крызіс... Значыць нам усім трэба маліцца да цябе, праўда?*

— Я заўсёды рады кожнаму звароту да мяне людзей, верных Богу. Ім я гатовы заўсёды дапамагаць, якіх бы высілкаў гэта ні каштавала.

*— Нездарма ж у нашым Мінску каля Чырвонага касцёла стаіць помнік табе. Дарэчы, мне ён вельмі падабаецца, і я вельмі цябе паважаю за тое, што ты перамог злога змея. Я таксама хачу быць моцным і смелым і хачу гэтак жа адважна змагацца з ворагамі.*

— Цудоўна. Толькі напачатку трэба навучыцца быць верным Богу. Вось гэта самае важнае. Калі ж палюбіш Яго ўсім сэрцам і ўсёй душою, тады і адвагі прыбавіцца, і пазмагацца, калі трэба, можна...

*— Ты так лёгка пра ўсё гэта кажаш! А што ты пажадаеш нашым чытачам?*

— Усё таго ж — любові да Бога і вернасці Яму! Жадаю, каб дзеці ды й дарослыя навучыліся ва ўсіх жыццёвых сітуацыях на першае месца ставіць Бога. Тады жыццё адразу зробіцца прыгожым і шчаслівым. Нездарма ж святы Аўгустын казаў, што калі Бог для чалавека на галоўным месцы, тады і ўсё іншае будзе на сваіх месцах.

*— Трэба запамятаць гэтыя словы.*

— Дык а для чаго я іх казаў? Вядома, запамятай! І галоўнае — жыві па іх. Даруй, Яська, але мяне вунь ужо клічуць мае анёлы — служба, брат...

*— Дзякуй за гутарку, архане́ле Міхале!*

*Гутарыў*
*Яська Запытальнік.*



# ЯК УСЮДЫ ПАСПЕЦЬ?

Ніводную хвіліну ніводзін чалавек яшчэ не вярнуў. Праляцела яна і больш ніколі не вернецца. Сумна гэта? Часам сумна. Асабліва, калі разумееш, што нашы хвіліны марнуюцца. І гэта добра разумеюць дзеці з парафіі святых Сымона і Алены, што ў Мінску.



Час трэба берагчы, каб людзі маглі для кожнай патрэбы яго размяркоўваць. Я не ўмею яшчэ берагчы свой час.

*Паліна Лявонік, 10 гадоў.*



Нам трэба берагчы свой час, каб мы маглі хадзіць у касцёл.

*Вячаслаў Ясючэня, 9 гадоў.*



Калі маеш час, то маеш і мноства магчымасцяў.

*Ліза Маскаль,*
*11 гадоў.*



Для таго, каб добра зрабіць урокі, не спазніцца ў школу, пагуляць, трэба ўмець усё разлічыць. У мяне гэта атрымліваецца.

*Віктар Мышкавец,*
*8 гадоў.*

Не ўсе абавязкі мне падабаюцца, хоць я і разумею, што яны важныя. Але калі іх добра выканаеш, то з'явіцца вольны час і тады вельмі радасна.

*Ягор Ладуцька,*
*11 гадоў.*

Каб навучыцца цаніць тое, што ў нас ёсць, трэба берагчы час. І гэта няпроста.

*Паліна Рашкевіч,*
*12 гадоў.*



Не вельмі я ўмею берагчы час. Трэба вучыцца, бо ад гэтага залежыць шмат усяго іншага.

*Наташа Бондар,*
*12 гадоў.*



У нас кожны дзень столькі розных справаў! Для гэтага і важна берагчы час. Я радуюся, калі гэта ўдаецца.

*Аляксей Чарняцоў, 11 гадоў.*

Калі атрымліваецца размеркаваць гадзіны і хвіліны, я нават на плаванне паспяваю па аўторках і суботах, а пасля на заняткі ў касцёл.

*Юля Гушча,*
*8 гадоў.*



Я ведаю, што гэта вельмі важна – умець распараджацца сваім часам, але яшчэ не заўжды выходзіць.

*Яна Данілецкая,*
*12 гадоў.*

Столькі трэба ўсяго паспець: памаліцца, зрабіць добрую справу для іншых, дапамагчы маме і тату. Ці заўсёды я гэта ўсё паспяваю? Як калі: 50 на 50.

*Насця Макарэвіч,*
*12 гадоў.*



Каб паспець больш даведацца пра Бога, трэба навучыцца паспяваць і ўсё іншае. Шкада, пакуль што ў мяне не заўсёды гэта атрымліваецца.

*Ірына Бараноўская,*
*11 гадоў.*



Я, на жаль, часта люблю «цягнуць час», а пасля ён неяк неўпрыкмет адразу сканчваецца.

*Паліна Баршчова,*
*10 гадоў*

Зберажэш хоць некалькі хвілінак, і пасля іх можна выкарыстаць на штосьці вельмі патрэбнае. Не заўсёды мне гэта лёгка даецца, але стараюся.

*Аляксандра Даніловіч,*
*11 гадоў.*



Берагчы час трэба, таму што ён ляціць вельмі хутка і яго ўжо не вярнуць, а трэба ж схадзіць і на гурток, і зрабіць урокі... Ці ўмею я гэта рабіць? Яно неяк само нібыта не беражэцца.

*Ягор Карней,*
*10 гадоў.*



Час трэба берагчы, каб памаліцца, не спазняцца на святую Імшу, зрабіць штосьці так, як запланавала. Стараюся ўсё гэта паспяваць. Часам атрымліваецца.

*Марыя Шыбко,*
*12 гадоў.*

Кожны любіць, калі ў яго шмат вольнага часу. Але для гэтага трэба навучыцца паспяваць рабіць усё іншае. Не заўсёды гэта лёгка.

*Даша Малевіч,*
*11 гадоў.*



На шчасце, у мяне атрымліваецца берагчы час, бо я хаджу ў школу, на танцы, заняткі па рэлігіі, паспяваю маліцца. І тады не атрымліваецца траціць яго на нейкія глупствы – часу няма на іх.

*Марыя Жырко,*
*10 гадоў.*

*Падрыхтавала*
*Марыя Новікава.*





# ШЧЫРАЯ РАЗМОВА



## Сукенка-двайнік

Я ведаю, што ў касцёле нельга размаўляць з сябрамі і нават з бацькамі. Праўда, мне і маім сябрам часам цяжка выконваць гэтае правіла. Вось нядаўна сястра Наталля, якая праводзіць для нас урокі па рэлігіі, на мяне насварылася. Мне вельмі трэба было сказаць бабулі, што адна дзяўчынка з нашай групы была ў той дзень у гэткай жа сукенцы, як у мяне. Мне гэта было непрыемна. Ну я і пабегла сказаць, каб бабуля не прымушала больш мяне адзяваць гэтую сукенку!

Я шаптала бабулі ціхенька, але ж яна кепска чуе, дык і перапытала некалькі разоў. А сястра Наталля сказала потым, каб я ніколі гэтак не рабіла. Мне было крыўдна, і я нават плакала. Хіба я зграшыла?

*Віка, 9 гадоў.*





## Пра што гаворым?

У касцёле, Віка, размаўляць можна і трэба. З Богам. Дзеля гэтага мы і прыходзім у святыню. А для ўсіх іншых размоваў ёсць шмат іншых месцаў. І пра сукенку, мне здаецца, можна было сказаць бабулі па дарозе дахаты. А зрэшты, я ўвогуле не зразумеў, чаму табе нельга больш яе адзяваць? Толькі таму, што нехта мае гэткую ж ? Ну і што? А як у школе ўсе ходзяць у аднолькавай форме? Словам, вы, дзяўчаткі, неяк гэта ўсё па-іншаму разумееце. Я тут не падказчык. А вось тое, што ў касцёле ні пра сукенкі, ні пра штосьці падобнае нельга размаўляць, гэта я ведаю дакладна! Дык ці варта табе крыўдаваць на сястру Наталлю? Сама падумай.

*Маленькі рыцар Беззаганнай*



# Рыцар Хрыста

Напэўна, у жыцці кожнага з нас павінны быць людзі, якія б неслі святло, цеплыню, надзею, якія б давалі добрую параду, суцяшалі, абдымалі словам і душой, любілі нас ад усяго сэрца і сваім прыкладам сапраўднага жыцця натхнялі нас на штодзённыя добрыя ўчынкі. Адным з такіх людзей, якіх Бог падараваў Беларусі і кожнаму з нас, беларусаў, вялікіх і маленькіх, быў Казімір Свёнтэк.

Гэты сапраўды мужны і незвычайны чалавек нарадзіўся ў іншай краіне – Эстоніі, але ўсё сваё жыццё прысвяціў менавіта нашай бацькаўшчыне, Беларусі. Горад Пінск стаў яго другой радзімай, дзе ён скончыў духоўную семінарыю імя святога Тамаша Аквінскага, дзе быў пробашчам на працягу доўгага часу, дзе сваімі казаннямі і добрым словам прывёў у касцёл немалую колькасць людзей, горад, дзе ў яго з'явілася шмат сяброў, знаёмых і парафіянаў, якія палюбілі яго ўсёй душой.



Мой дзядуля, Баляслаў Башынскі, які ў той час быў старшынёй прафіяльнай рады, таксама сябраваў з кардыналам. Па яго аповедах, Казімір Свёнтэк часта завітваў да нас у госці, каб пагутарыць, даць параду і пачаставацца чым-небудзь смачным. Ён заўсёды заставаўся вельмі простым чалавекам, у якога былі свае захапленні. Мясцовыя бабулькі ўспамінаюць, што ў маладосці ён даволі часта рассякаў на сваім матацыкле ў модным па тым часе адзенні. Любіў ён таксама пабыць у цішыні, застацца сам-насам з прыродай. Ён бясконца доўга мог сядзець на беразе і назіраць за прыгожай, павольнай рачулкай, слухаць птушак, углядацца ў далячынь неба. Словам, ён быў адным з нас, але ў той жа час Бог надзяліў яго незвычайным і вельмі няпростым лёсам. Турма, лагеры Сібіры і Комі, жорсткі савецкі час... Але дабрыня, Божае святло, змаганне — гэта тое, што дапамагала яму заўсёды ісці наперад. І нават у самы цяжкі час усмешка ніколі не пакідала яго — мабыць таму, мы і запамяталі нашага кардынала Казіміра Свёнтка як Божага чалавека з цёплай усмешкай на вуснах, які быццам казаў нам — усё пройдзе, даверымся Богу.

*Марыля Шлык, Мінск*

# Такое не забываецца



Дарагая рэдакцыя! Пішуць вам сёстры Таня і Іра Вышадка з парафіі Найсвяцейшага Сэрца Езуса, што знаходзіцца ў г.п.Падсвілле. Мы ходзім у пяты (Таня) і першы (Іра) класы. А яшчэ нам вельмі падабаецца наведваць заняткі па рэлігіі, якія вядзе ксёндз Андрэй. У чэрвені ў нашым касцёле адбылося свята Першай святой Камуніі для шасці хлопчыкаў і дзяўчынак. Але ў сапраўднасці гэта было свята для ўсіх нас, бо ўсе мы вельмі радаваліся за іх. А ў ліпені трое хлопчыкаў былі прынятыя ў міністранты. Сярод іх ёсць нашы сябры — віншуем іх!



Наш касцёл у Падсвіллі будаваўся 10 гадоў. Ён, можна сказаць, рос разам з намі, дзецьмі. А якой была наша радасць, калі летам адбылося доўгачаканае яго асвячэнне! Усе — і дзеці, і дарослыя— былі вельмі шчаслівыя ў гэты незабыўны дзень!

*Таня і Іра Вышадка,*
*г.п. Падсвілле*
*Глыбоцкага р-на.*





# ЗЯМЛЯ ЛЮБІЦЬ ПРАЦАВІТЫХ

Праблемы многіх сучасных хлопчыкаў і дзяўчынак, «чым заняцца?» альбо «куды падзець час?», Юлі Бельскай і яе братам Сашу ды Сярожу невядомыя. Яны жывуць у маляўнічай вёсцы Чарневічы на Глыбоччыне і вучацца ў Чарневіцкай школе. Усе таксама — парафіяне чарневіцкага касцёла Узвышэння Святога Крыжа, а хлопчыкі да таго ж яшчэ нясуць адказную службу міністрантаў пры алтары ў роднай святыні.



Апроч таго, абавязкаў у кожнага з іх па хатняй гаспадарцы хоць адбаўляй. Карова Ласка, чыё малако дзеці вельмі любяць, як вядома, зімой хоча есці шмат сена. Надзейная апора ў гаспадарцы конь Міраж таксама ўзімку ласы да яго. Таму, каб сена хапала ўдосталь на ўсіх,



трэба ўлетку папрацаваць. Саша і Сярожа – з косамі ды віламі, Юля – з граблямі. Чым не дапамога маме з татам?

Калі ж надыходзіць час уборкі бульбы, буракоў, морквы з гарода, усім траім таксама заўсёды знойдзецца справа – абы ўраджай рос багаты. Юля, калі радавалася добраму ўраджаю бульбы, што засведчыў гэты здымак, была яшчэ маленькая. Цяпер яна ўжо і сама капае яе разам з усімі. І таксама паранейшаму радуецца, як і ўсе яны, калі зямля багата родзіць. Яно ж вядома: зямля шчодра ўзнагароджвае працавітых!

Хтосьці, магчыма, паспачувае гэтым дзецям, бо ў іх жа так шмат працы! А можа лепш варта па-добраму пазайздросціць ім? Бо працавітыя людзі заўсёды і ўсюды знойдуць сабе добрае месца ў жыцці. І той, хто ўмее як след з радасцю ды задавальненнем працаваць, сумее потым і адпачыць з карысцю.

Пасля працы Юлю, Сашу і Сярожу чакаюць урокі, рэчка, лес, возера. І толькі потым — камп'ютар і гульні ў ім, тэлевізар, калі, вядома, у ім знойдзецца штосьці добрае і цікавае. А то і бабулю з дзядулем, якія жывуць таксама паблізу, у іх родных Чарневічах, трэба праведаць...

Як думаеце, сябры, ці ўмеюць гэтыя дзеці берагчы дадзены ім Богам час?

*Адась Чаронка.*

*Фота Валянціны Мяцеліцы.*





# Са старога гадзінніка

Гадзіннік, як вядома, мае вартасць тады, калі ён спраўны і дакладна паказвае час. А калі ён ужо стаміўся адмерваць гадзіны ды хвіліны? Што тады, на сметнік? У Наваполацку жыве майстар, які са старых гадзіннікаў робіць вельмі прыгожыя рэчы.

Некалі Сяргей Пятровіч Захараў быў акторам народнага тэатра «Час». Потым калектыў неяк сам па сабе распаўся, а Сяргей Захараў нібы не пажадаў адмахнуцца ад супрацоўніцтва з часам і аднойчы, перабіраючы дэталі старога гадзінніка, раптам убачыў у іх... колы матацыкла. Прыклаў на паперу, знайшоў яшчэ дэталі, якія паходзілі на бачок ад матацыкла, руль, педалі... Так з-пад ягоных рук нарадзіўся першы сувенірны матацыкл з гадзінніка. Вось з таго часу і пайшло, і закруцілася. Спачатку майстар зрабіў некалькі прыгожых карцінак са сваіх старых гадзіннікаў. Сябры ўбачылі матацыклы, цягнік, нават букет кветак, што нарадзіліся з-пад умелых рук Сяргея Захарава, і пачалі зносіць яму старыя гадзіннікі. Хутка іх назбіралася столькі, што спатрэбіўся асобны мех.

А што ж матацыклы? Яны нараджаліся на працоўным стале майстра адзін за адным і... разыходзіліся па свеце. Аднаму сябру падараваў, другому, трэцяму... Потым сябры захацелі камусьці таксама падара-



ваць... Словам, на «Славянскім базары» ў Віцебску сувеніры з гадзіннікаў Сяргея Пятровіча ўжо даўно знайшлі свае месца і сваіх пакупнікоў. Яны, дарэчы, часам таксама прыходзяць не з пустымі рукамі, а прыносяць з сабой гадзіннік ці нават некалькі.

Але ці з кожнага гадзінніка можа атрымацца прыгожы сувенір? На жаль, з сучасных, у якіх дэталі зроблены пераважна з пластмасы ці іншых нетрывалых матэрыялаў, не атрымаецца прыгожая рэч. Таму Сяргей Пятровіч выкарыстоўвае механізмы, выпушчаныя да 1980 года.

Раней майстар рабіў свае сувеніры ў выглядзе карцінак, а цяпер усё больш стварае аб'ёмныя рэчы. Кажа, што гэта цікавей і прыгажэй. Але ж і складаней, бо для змацавання дэталяў патрэбны вельмі моцны клей.

Але кажуць, што лепш адзін раз убачыць, чым сто разоў пачуць. Таму, калі хтосьці з чытачоў хоча паглядзець на свае вочы, як нараджаюцца матацыклы Сяргея Захарава, гэта можна зрабіць. У інтэрнэце ёсць прыгожы ролік, які раскрые таямніцу іх стварэння.



Вось адрас: www.youtube.com/watch?v=GD2PIo3WHn8

Ну як? Прыгожа?

А яшчэ Сяргей Пятровіч вельмі любіць керамічныя вырабы. Праўда, стварае іх усё больш ягоны сябар Валеры Дунеўскі. Затое Сяргей Пятровіч умее зрабіць сучасны ганчарны круг. А потым можна паспрабаваць і самому сесці за яго...



Галоўнае, каб у чалавека была любоў да творчай працы. І калі яна ёсць, то чалавек здольны ствараць вельмі прыгожыя, сапраўды непаўторныя рэчы.

*Аленка-майстрыха*

# Як жа не пазнаеце?

**Евангелле паводле святога Лукі**
*Раздзел 12, вершы 54 –56*

І сказаў натоўпу: «Калі бачыце хмару, якая падымаецца з захаду, адразу кажаце: «Дождж будзе», і так адбываецца. А калі дзьме паўднёвы вецер, кажаце: «Спякота будзе», і так адбываецца. Крывадушныя, аблічча зямлі і неба распазнаваць умееце, як жа часу гэтага не пазнаеце?





# Пад бацькоўскай рукою

Гэта праўда, што сучасныя навука дасягнула вялікіх вышыняў. Тэхніка — таксама. Людзі ганарацца сваімі ведамі і дасягненнямі. Яны даследуюць іншыя планеты, тлумачаць розныя прыродныя з'явы, выкарыстоўваюць прыроду дзеля свайго дабрабыту. Ды, на жаль, не заўсёды дбайна гэта робяць. То ім уздумаецца рэкі павярнуць кудысьці ўбок, то правесці такую меліярацыю, што і людзям, і птушкам ды звярам пасля яе хоць плач. Не так гэта проста — навучыцца дбайна гаспадарыць на нашай планеце!

А да таго ж, ці заўсёды мы памятаем, чыя рука дала нам усё гэта? Ці разумеем, што Пан Бог не толькі стварыў сусвет, але і падтрымлівае жыццё ў ім? Ці ўмеем мы дзякаваць Яму за гэта? І ці ахвотна робім гэта? Ці заўважаем мы вакол сябе і ва ўсім Яго сляды?

Бо кажуць жа, што няма горай за няўдзячнае дзіця, якое не памятае бацькоўскіх рук.



# ЗАГАДКІ З ЕВАНГЕЛЛЯ

Сябры! Мяне вельмі радуе, што вы палюбілі «Загадкі з Евангелля» і папранейшаму ахвотна адгадваеце іх. Вядома, здараюцца памылкі. На тое яны і загадкі. Але няхай не сумуе той, каму не пашанцавала пакуль што правільна адказаць на ўсе пытанні. У вас усё наперадзе!

Сёння мы прапануем вам новыя загадкі. Яны тычацца ў асноўным вучняў Езуса. Яно й зразумела: нядаўна пачаўся новы навучальны год. Будзьце ўважлівыя! І, калі ласка, не лянуйцеся адказваць поўна. Часам на некаторыя пытанні можна і патрэбна даслаць разгорнуты адказ. Як, напрыклад, на два апошнія пытанні гэтага нумара. Жадаю поспехаў!

*Маленькі рыцар Беззаганнай*

- Назавіце першых вучняў Хрыста. У якім Евангеллі вы пра гэта прачыталі?
- Для чаго спатрэбілася Езусу лодка? (Мк 3,7–12)
- Назавіце незвычайныя імёны, якімі Езус называў некаторых сваіх вучняў.
- Як звалі Апостала, выбранага замест здрадніка Юды? У якой кнізе вы пра гэта прачыталі?
- У дзявятым раздзеле Кнігі Дзеяў святых Апосталаў ёсць гісторыя пра руплівую вучаніцу, якая памерла і якую ўваскрасіў адзін з Апосталаў. Назавіце імёны вучаніцы і Апостала.
- Пасля якой падзеі апостал Павел стаў верным вучнем Хрыста? (Мастакі могуць намаляваць гэтую падзею.)
- У якой краіне вучняў Хрыста ўпершыню назвалі хрысціянамі? (Дз 11)
- Як вы думаеце, хто ў наш час можа называцца добрым вучнем Хрыста?
- Ці лічаце вы сябе Яго вучнямі? Чаму?





*Адказы на*
**«Загадкі з Евангелля»,**
*змешчаныя ў №2 за 2011 г.*

Злога духа; бо Ананія зманіў людзям і Богу; боязь Божую; не, няправільна, яму не трэба было даваць неразумных абяцанняў; першым хрысціянскім мучанікам; нашай веры ў Хрыста; на Галілейскім; бо яны ператварылі дом Айца ў дом гандлю; навучыцца таксама прабачаць іншым; які выконвае Божыя запаведзі.

Узнагароды за дакладныя і поўныя адказы ад ксяндза Сяргея Сурыновіча атрымаюць: **сёстры Іра** і **Таня Вышадка** з г.п. Падсвілле, што на Глыбоччыне, **Оскар Усціновіч** з пас. Свір, што на Мядзельшчыне, **Дамініка Сухарукава** з Мінска, **Мікола Томкавіч** з Вілейкі, **Яна Ананька** з Полацка, **Ганна Быхавец** з в. Чарнешчына, што на Полаччыне, **Марыя Лычкоўская** з Полацка, **Міша Галубіхін** з г. Чэрвеня.

Зазначым, што правільныя адказы на загадку «Летні пейзаж» даслалі сёстры **Караліна** і **Дамініка Сухарукавы** з Мінска і сёстры **Таня** і **Іра Вышадка** з Падсвілля. Дзякуй, дзяўчаткі! Шчыра дзякуем таксама ўсім, хто не проста адказвае на пытанні, але яшчэ і расказвае нам пра сваю сям'ю, парафію, пра розныя цікавыя падзеі.

*Будзем і надалей сябраваць!*
*Рэдакцыя*

# Якое імя?

У пранумараваных квадратах напісаны літары. Алоўкам закрэслі квадраты, нумары якіх супадаюць з вынікамі арыфметычных прыкладаў. Калі правільна закончыш працу, то прачытаеш з літараў у квадратах, якія засталіся, новае імя, якое даў Сымону Езус.

| М | Б | П | К | Е | У |
|---|---|---|---|---|---|
| 1 | 2 | 3 | 4 | 5 | 6 |
| **Е** | **Н** | **Т** | **Р** | **В** | **О** |
| 7 | 8 | 9 | 10 | 11 | 12 |

**Арыфметычныя прыклады**

| | | |
|---|---|---|
| 9 - 8 = ... | 5 + 2 = ... | 7 + 4 = ... |
| 6 : 3 = ... | 3 + 3 = ... | 4 x 3 = ... |
| 8 - 4 = ... | 2 x 4 = ... | |

## З Маці Божай...

Пачынаючы ад гадзіны 0.00, упарадкуй па ўзрастаючай гадзіны разам з адпаведнымі пад імі літарамі і прачытай, якое свята Маці Божай Вастрабрамскай святкуюць тры народы ў лістападзе? Назаві гэтыя народы.



# Прыгоды ксяндза Лявона

## Пільнасць падвяла

Васіль Рымша не сказаць, каб надта руплівым быў парафіянінам. Улетку працы, вядомая рэч, да ліха, а потым восень, у якой работ восем, а за ёй зіма з яе снягамі завейнымі...

Ды толькі нельга сказаць, што Васіль — не патрыёт сваёй парафіі. І гэта ён нядаўна даказаў. Ехалі, значыць, мужчыны бульбу буртаваць, а праязджаючы паўз касцёл, Васіль убачыў, як двое ў камбінезонах нейкія дошкі ад касцёла валакуць. Васіль, нядоўга думаючы, сігануў з грузавіка:

— А вы, заразнікі, што робіце?!

Тыя знямелі, дошкі з рук выпусцілі ды застылі з адкрытымі ратамі. А Васіль яшчэ больш у смак абаронцы народнага дабра ўвайшоў:

— Зараз у міліцыю здам — паседзіцё там, надоўга запамятаеце, як касцёльнае дабро цягаць!..

Нарэшце адзін з мужчынаў пасмялеў ды пачаў апраўдвацца:

— Дык некаму ж трэба, добры чалавек, насіць іх, гэтыя дошкі.

— Некаму, можа, й трэба, але не табе, — не супакойваецца Васіль.

— Праўду кажаш — не мая гэта справа...

— Дайшло нарэшце! Я вось перш чым у міліцыю, да ксяндза цябе завяду, няхай ведае, якія тут прайдохі...

— А-а-а... не трэба нікуды весці, бо я ж і ёсць... ксёндз, — уздыхнуў ксёндз Лявон, выціраючы рукі аб камбінезон. — Я ксёндз, а ён, — махнуў на свайго супрацоўніка, — арганісты наш... Не ведаеш нас, добры чалавек?

Цяпер надышла чарга ўжо Васілю застыць з адкрытым ротам... Да рэальнасці яго вярнуў дружны рогат мужчын з грузавіка.

— А чаго ж Вы, ксёндз Лявон, без сутаны? Я ж... мог бы і... Добра яшчэ, што так абышлося!

Ксёндз Лявон уздыхнуў:

— Гэта праўда — нягожа мне без сутаны... Адно што няз'ручна ў ёй дошкі грузіць.

Чырвоны, што той вараны рак, Васіль раптам знайшоў выйсце з непамыснага становішча:

— Мужыкі! — свіснуў ён сваім. — А давайце мы гэтыя дошкі вобмельгам перакінем куды трэба!

Праз паўгадзіны праца была скончаная.

— Дзякуй! — радаваўся ксёндз Лявон. — Пашчасціла нам! Вы, добрыя людзі, часцей у касцёл зазірайце, то й... пазнаваць адзін аднаго будзем!

— Ды... гэта... — мармытнуў Васіль і сігануў у грузавік, а калі той затарахцеў, да ксяндза Лявона даляцела: — Да сустрэчы!

*Прыгоду запісала І. Ж.*







# ЦУДОЎНАЯ ПАРА











Лета сапраўды цудоўная пара і для дзяцей, і для дарослых. Калі толькі яно было змястоўным, цікавым, напоўненым падарожжамі, сустрэчамі, радасцю. Менавіта такім было лета для дзяцей з парафіі Найсвяцейшага Сэрца Езуса з Наваполацка. І пра гэта як найлепш сведчаць гэтыя здымкі.

Хто скажа, што героі іх не радасныя і не вясёлыя? Адпачынак на возеры разам з сёстрамі Магдаленай і Соф'яй ды некалькімі старэйшымі парафіянамі — цудоўны час. І цяпер усе яны з не меншай радасцю ўспамінаюць тыя дні, калі разам купаліся, загаралі, гулялі ў самыя розныя гульні і, вядома, маліліся. Бо не бывае адпачынку ад Бога. Адпачынак толькі тады сапраўды радасны, калі ён праведзены з Богам!

*І. С.*



*Марыля Шлык*

* * *

Мы маем час, каб быць жывымі,
Дарыць цяпло, усмешку, смех,
Каб прабачаць, каб быць цярплівым,
Каб звацца... годна — ЧАЛАВЕК.

У нас ёсць час, каб не здавацца,
Дапамагаць, трываць, ісці,
Пакутаваць, крычаць, змагацца
І быць святлом. Святлом начы.

Маленькі час вялікіх справаў,
Усмешак, словаў, дабрыні.
Ён толькі раз нам дараваны!
Дзеля сваёй... чужой душы...